адна зямля




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

7 мая 2004 года

№ 19 (470)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

### Выбіралі «Вясну»

МЯДЗЕЛ. У нядзелю ў гарадскім Доме культуры адбыўся конкурс "Міс Вясна" сярод старшакласніц. Перамагла Таццяна Хутаранская з Мядзельскай СШ №2.

Аддзел інфармацыі "РГ".

### Дошку абнавяць

СМАРГОНЬ. Фота 40 лепшых працаўнікоў раёна зоймуць месца на абноўленай Дошцы гонару ў райцэнтры. Кожны з уганараваных атрымае прэмію – 25 тысяч рублёў.

Ірына ЛУГІНА.

### Маёўка ў парку

ВІЛЕЙКА. Маёўка з нагоды 1 Мая прайшла ў Ніжнім парку. Каля 20 чалавек слухалі песні ў выкананні Алеся Наркевіча і работніка "Зеніта" Алеся Алесіка. Маёўку арганізавалі сябры БНФ і АГП.

Аляксей СЮДАК.

### Зона адпачынку

ВАЛОЖЫН. Прадпрыемствы Валожына адрэстаўравалі гарадскі вадаём паблізу маласлысырзавода, у які запусцілі 437 кілаграмаў малькоў карпа. Інспекцыя прыродных рэсурсаў выдаткавала на іх 2 мільёны рублёў.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Тройчы лепшыя

МАЛАДЗЕЧНА. Тэатр лялек "Батлейка" ў трэці раз атрымаў на міжнародным фестывалі "Пад шапкай Гугуцэ" ў Малдове дыплом за лепшы спектакль-казку "Хохлік" рэжысёра Галіны Карбаўнічай.

Ірына РАБУШКА.

### Мытня пела

АШМЯНЫ. Агляд-конкурс мытных пастоў раёна прайшоў у раённым Доме культуры. Удзельнічалі 7 пастоў. Перамагла аб'яднаная каманда Гудагая і Лошы.

Сяргей ЗЯНЬКО.





# Са святам Перамогі!



За сённяшні мірны дзень і спакойны сон дзяцей ваяваў ветэран Вялікай Айчыннай вайны былы журналіст Валожынскай раённай газеты "Працоўная слава" Сямён Штэйнер.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

# Не старэе душой ветэран

**ВАЛОЖЫН. У жорнах гісторыі перамолваліся людскія лёсы. Спакойна вучыцца, кахаць, працаваць гэтаму пакаленню перашкодзіла вайна. Прайшоў яе пыльнымі, крывавымі дарогамі і Сямён Штэйнер.**

... Стаяў чэрвень. Гарачы, спякотны. Радуючыся сонцу, цяплу, канікулам і хуткай сустрэчы з цёткай, якая запрасіла ў госці, выпускнік 8 класа адной з Гомельскіх школ ехаў на канікулы ў Маскоўскую вобласць. На вакзале яго не сустрэлі: змяніўся расклад руху цягнікоў. Таму ў Тарасаўскую дабіраўся самастойна. Там і даведаўся, што пачалася вайна.

Больш у Гомель ён не трапіў. Застаўся працаваць у мясцовым калгасе. Адсюль, без блаславення маці, якую эвакуіравалі ў Чкалаўскую вобласць, пайшоў на фронт. Ваяваў у 120-й гвардзейскай ордэна Чырвонага Сцяга Рагачоўскай дывізіі на пасадзе старшага разведчыка асобнага гвардзейскага знішчальнага супрацьтанкавага дывізіёна. Мае два медалі "За адвагу", ордэн Чырвонай Зоркі, ордэн Айчыннай вайны II ступені, медалі "За ўзяцце Берліна", іншыя ўзнагароды.

Перамогу Сямён Штэйнер сустрэў пад Берлінам. А у родны Гомель вярнуўся 5 лістапада 1945 года. Дэмабілізавалі па кантузіі. І сягонні не можа без слёз успамінаць сваю першую, пасля такой доўгай разлукі з маці, сустрэчу. Сышліся на вузенькай сцежачцы, якой ён ішоў дадому, а яна – на вакзал.

Затым былі курсы кінамеханікаў, 10 клас вячэрняй школы, юрыдычны факультэт універсітэта, пасля заканчэння якога, а было гэта ў 1952 годзе, яго накіравалі працаваць у Валожын. Тут, у мясцовай газеце, дзе ён адпрацаваў амаль 50 гадоў, і пачалася яго кар'ера журналіста.

Калі на рэйсавым аўтобусе, а калі і на спадарожных машынах ездзіў з аднаго калгаса ў другі, сустракаўся з людзьмі, шмат пісаў. Героямі яго публікацый былі як механізатары, так і старшыні гаспадарак, дырэктары школ... Каб адчуваць сябе з імі на роўных, шмат часу праводзіў у бібліятэцы, купляў спецыяльную літаратуру, запоем чытаў. Не мог дазволіць сабе дылетанцтва, хацеў заўсёды мець свой погляд на праблему, уласную думку.

Ён ніколі не думаў, што журналістыка стане сямейнай прафесіяй. Гэты факультэт закончыла адразу дачка Наталля, а пасля і ўнучка Вікторыя. Першая, як і калісьці бацька, працуе ў раённай газеце "Працоўная слава", другая – пакуль што ў дэкрэтным адпачынку, гадуе маленькага Цімафея.

Часам здаецца, што з нараджэннем праўнука Сямён Ісакавіч нават памаладзеў. Больш бляску стала ў вачах, спрыту ў нагах. Хаця цікавасці да жыцця гэты чалавек не губляў ніколі.

Ён добры агароднік і кулінар. Усіх сваіх маладых калег надзяліў рэцэптамі прыгатавання пірагоў, салатаў. Дарэчы, першыя ў сваім жыцці нарыхтоўкі на зіму я ставіла менавіта пад яго дыктоўку...

Старасць яго дома не застане. Менавіта гэты выраз прыйшоў на памяць, калі спрабавала дазваніцца Сямёну Ісакавічу, каб дамовіцца аб сустрэчы. Аказваецца, хадзіў па справах, затым зазірнуў на агарод, у Савет ветэранаў. У нядзелю іх свята. Дзень Перамогі, які набліжалі, як маглі.

Марына СЛІЖ.

■ ТУРЫСТЫ І ГІСТОРЫЯ

# Краязнаўчыя падарожжы

**ВІЛЕЙКА, СМАРГОНЬ. У час паходаў турысты з маладзечанскага клуба «Пілігрым» не абмінаюць прыродныя помнікі — камяні-валуны.**

Падчас аднаго з сямейных велапаходаў наведалі камень каля вёскі Куранец Вілейскага раёна. Знаходзіцца ў 500 метрах на захад ад сярэдзіны вёскі. Называецца Комсін камень. Ён даволі вялікі: метры 4 у даўжыню, 3 у шырыню і 1 у вышыню. Дванаццаць турыстаў лёгка змясціліся на ім.

Калісьці — расказалі мясцовыя жыхары — жыў у гэтых мясцінах кравец па імені Комся. Вельмі добрае адзенне ўмеў шыць для людзей. Але часта ён гнявіў Бога, працуючы ў святыя дні. Не сцярпеў гэтага Бог і ператварыў Комсю ў камень.

У вёсцы Залессе Смаргонскага раёна непадалёк ад маёнтка Міхала Агінскага ёсць легендарны камень з надпісам «Ценям Касцюшкі». Міхал Агінскі актыўна ўдзельнічаў у паўстанні 1794 года ў Беларусі, Польшчы, Літве пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Пасля задушэння паўстання Агінскі эміграваў за мяжу і доўга вандраваў па Еўропе. У 1802 годзе вярнуўся на Радзіму. Тут, у Залессі, ён пражыў два дзесяцігоддзі. Тады і быў усталяваны гэты камень. Словы «Ценям Касцюшкі», высечаныя на ім, — знак глыбокай павагі Агінскага да памяці славутага земляка, пахаванага на чужыне.



Турысты з турклуба «Пілігрым» Гульнара і Юры Акуневічы, Людміла і Кірыл Коласы і Вольга Кажамяка падчас вандроўкі да каменя Касцюшкі ў Залессі.
Фота Сяргея БЯЛКОВА.

Аматарам беларускай гісторыі маладзечанскія турысты раяць прачытаць кнігу Э.Ляўкова «Маўклівыя сведкі мінуўшчыны», выдадзеную ў Мінску ў 1992 годзе.

**Сяргей БЯЛКОЎ.**

■ КАНТАКТЫ

## Прыехалі з падарункамі

**ВАЛОЖЫН. Прадстаўнікі пасольства ЗША ў Беларусі, аташэ па пытаннях інфармацыі, адукацыі і культуры Даян МакДональд наведалі Івянецкую і Ракаўскую школы.**

У кожную прывезлі па 187 экземпляраў кніг на суму 1060 долараў ЗША. Гэта руска-англійскія слоўнікі, кнігі па гісторыі Амерыкі, метадычная літаратура.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ТЭЛЕБАЧАННЕ

## Паглядзім пра Крывічы

**МЯДЗЕЛ. У суботу, 8 мая, у 8.00 на першым нацыянальнага тэлеканале пакажуць перадачу "Падарожжа дылетанта. Крывічы. Кляштар трынітарыяў".**

Здымачная група перадачы правяла ў пасёлку цэлы дзень, здымала не толькі касцёл, пабывала ў царкве, цэнтры народных рамёстваў.

**Аддзел інфармацыі.**

■ ПРЭЗЕНТАЦЫІ

## «Памяць» віляйчан

**ВІЛЕЙКА. Прэзентацыя гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць. Вілейскі раён» адбылася 5 мая ў Палацы культуры.**

Работа над кнігай пачалася, па словах старшага навуковага супрацоўніка вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея, укладальніцы хронікі **Вольгі Коласавай**, аўтарскі калектыў хронікі складаецца больш чым з 30 чалавек. Сярод іх навукоўцы Нацыянальнай акадэміі навук, супрацоўнікі вілейскага музею, мясцовыя краязнаўцы дырэктар «Раёна электрычных сетак» **Анатоль Рогач**, загадчык паліклінікі **Сяргей Грынцэвіч**.

Хроніка ахоплівае часы ад старажытнасці да нашага часу і складаецца з тэматычных раздзелаў, кожны з якіх суправаджаецца картамі, фотаздымкамі, дакументамі. Некаторыя дакументы друкуюцца ўпершыню. Кніга змяшчае таксама спісы тых, хто загінуў і прапаў без вестак падчас вайны, а таксама фотаздымкі тых, хто вярнуўся пасля перамогі ў другой сусветнай вайне. Прычым фотаздымкі, сказала Вольга Коласава ў інтэрв'ю «РГ», не сучасныя, а тагачасныя, зробленыя адразу пасля вайны. У кнізе надрукаваны артыкулы пра ўсіх знакамітых людзей, якія нарадзіліся на Вілейшчыне або цяпер жывуць тут.

Хроніка «Памяць. Вілейскі раён» складаецца з 704 старонак. «Яшчэ шмат засталося па-за межамі кнігі, — сказала Вольга Коласава, — бо яе аб'ём абмежаваны».

Больш падрабязна пра прэзентацыю хронікі чытайце ў наступным нумары.

**Святлана ЦІШКО.**

■ АНОНС

## 9 мая ў Забродддзі

**ВІЛЕЙКА. Традыцыйнае дваццатае святкаванне Дня Перамогі адбудзецца ў Забродддзі 9 мая. Свята прысвечанае 60-годдзю вызвалення Беларусі і 90-годдзю пачатку першай сусветнай вайны.**

Пачнецца а 12 гадзіне з паніхіды ў памяць воінаў, што загінулі падчас першай і другой сусветных войнаў. «Мы традыцыйна памінаем іх адначасова, — сказаў заснавальнік гэтага свята ў Забродддзі **Барыс Цітовіч** у інтэрв'ю «РГ», — паколькі няма спецыяльнага дня памяці воінаў, што загінулі падчас вайны 1914 года». Затым госці наведаюць парк памяці, пасаджаны 20 гадоў таму да дня вызвалення, адбудзецца малое асвячэнне капліцы, будаўніцтва якой не завершана, і ўрачыстая пачастка. Будзе працаваць фотавыстава. У святкаванні возьмуць удзел дзіцячы хрысціянскі тэатр Нарочкай музычнай школы «Ялінка», музычна-этнічная група «Cry to Krai» з Мінска.



Стараннямі мастака Барыса Цітовіча і яго жонкі Валянціны ў Забродддзі ля Нарочы Вілейскага раёна і наваколлі рупліва адраджаецца духоўнае жыццё, мясцовыя людзі клапоцяцца аб захаванні гісторыі. Не выключэнне і парк Перамогі, які закладзены вядомымі ў Беларусі людзьмі. Сярод іх і дуб Васіля Быкава, які некалі пасадзіў тут пісьменнік–ветэран Айчыннай вайны.
Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА, архіў "РГ".

У праграме свята, па словах Барыса Цітовіча, магчымыя змены, але запланаваныя дэманстрацыя антыкварных джыпаў «Молатаў 4х4» і фотаздымкаў, што назапасіліся за 20 гадоў (Забродддзе наведалі шмат хто з вядомых беларусаў, у тым ліку Васіль Быкаў).

У Забродддзе ўжо прыехалі 8 студэнтаў мастацкай акадэміі Брэмена (Германія), якія разам з маладымі беларускімі мастакамі ладзяць плэнэр (плэнэр – мастацкая акцыя, якая аб'ядноўвае шэраг мастакоў для сумеснай працы).

**Святлана ЦІШКО.**

## Рэпертуар Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» на май

*9 нядзеля 12.00* М. Андрэеў. **"Вясёлкі Батлейкі"** (забаўляльны спектакль-канцэрт)
*16 нядзеля 12.00* **ЗАКРЫЦЦЁ ТЭАТРАЛЬНАГА СЕЗОНА.** Х.Юркоўскі. **"Ты і я...Лялечнік"** (казка)

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: вул. Драздовіча, 5-в. Тэл. 5-36-73, 6-84-27. Каса працуе з 10.00 да 14.00, акрамя суботы.

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## Гэта трэба жывым

Днямі ў рэдакцыю прыйшоў хлопчык. Маленькі такі, нясмелы. Прынёс напярэдадні Дня Перамогі матэрыял пра свайго прадзядулю Івана Раўко.

"Мой прадзядуля, — напісаў вучань 2 "А" класа гімназіі №6 горада Маладзечна Аляксей Шаўлюк, — ваяваў з 10 лістапада 1944 года ў Войску Польскім. Вызваляў горад Вжэсне, які немцы цалкам спалілі. Хацелі, сагнаўшы ў касцёл, знішчыць і насельніцтва. Аднак своечасова падаспелі вайскоўцы і вызвалілі людзей. Тры дні гараджане святкавалі сваё другое нараджэнне, а салдаты пайшлі далей.

Змагаліся за гарады Лодзь, Быдгошч, Плятаў і Сасновы Бор. У апошнім было вельмі шмат засад і амаль што ўсюды нацягнуты калючы дрот, з-за якога людзям цяжка было перамяшчацца.

Пад горадам Гдыня 4 сакавіка 1945 года прадзядулю паранілі ў левае плячо. Два месяцы лячыўся ў шпіталі. Куля ад ранення ёсць у яго руцэ і цяпер. Я яе мацаў.

Мой прадзядуля мае ордэн Славы III ступені, ордэн Айчыннай вайны, медаль "За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941-1954 г.г.", медалі Жукава, за Варшаву, іншыя ўзнагароды. Вось такі ён, прадзядуля Ваня, якім я вельмі ганаруся і хачу, каб пра яго ведала як мага больш людзей".

"Ты сам пісаў?" — спытала ў Алёшы. "Сам, — сарамліва апусціўшы вочы, адказаў юны карэспандэнт, — бабуля толькі праверыла, каб памылак не было".

Парадавалася за хлопчыка, парадавалася за яго родных, што даюць дзіцяці ўрокі гісторыі на прыкладзе ўласнай сям'і, прадзядулю, які ў Дзень Перамогі не застанецца без увагі. Яго абавязкова павіншуюць: не паштоўкай, дык кветкамі, добрым словам.

Ёсць святы, якія не старэюць. Да ліку іх адношу і 9 Мая. Дзень, у які нашы ветэраны маладзеюць сэрцам і душой і, дастаўшы з шафаў касцюмы з ордэнамі і медалямі, выходзяць на вуліцы гарадоў і вёсак. Іх вітаюць, ім кажуць дзякуй, прысвячаюць вершы і песні, дораць падарункі. Ад увагі былыя салдаты Вялікай Айчыннай нібы маладзеюць душой. І цякуць, цякуць ракой успаміны, а разам з імі скупыя слёзы. Па блізкіх і сябрах, страчаных як у ваенны, так і ў мірны час.

Ідуць гады, мяняюць адна адну вёсны. Усё менш і менш застаецца сярод нас сведкаў тых страшных падзей. Але падрастаюць новыя пакаленні, якія захоўваюць памяць аб подзвігу свайго народа. І ён жыве дзякуючы вечнаму агню, што запальваецца ля помнікаў загінуўшым землякам на цэнтральных плошчах гарадоў у Дзень Перамогі, экспазіцыям музеяў, успамінам.

У нядзелю, 9 мая, гарады і вёскі рэгіёну ў чарговы раз адзначаць Дзень Перамогі. Свята са слязамі на вачах, падчас якога ўспомніць загінулых і схіляць галовы перад пакаленнем, на плечы якога ляглі чатыры гады вайны.



**Разважала Марына СЛІЖ.**

■ РЫНАК

## Выконваем правілы гандлю

**Ад 15 сакавіка 2004 года дзейнічаюць новыя правілы гандлю на рынках. Аб тым, што іх патрабаванні выконваюць не ўсе індывідуальныя прадпрымальнікі, сведчаць праверкі, праведзеныя спецыялістамі Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржаўнага кантролю Мінскай вобласці на міні-рынку «1000 дробязяў» Маладзечна.**

Адным з самых распаўсюджаных парушэнняў з'яўляецца адсутнасць у прадпрымальнікаў дакументаў, якія пацвярджаюць якасць рэалізуемых тавараў імпартнай вытворчасці наступных найменняў: дзіцячае адзенне і абутак, мужчынскія тэніскі, цацкі, бытавая хімія, касметычныя сродкі, фільтры для ачысткі вады.

Згодна з пунктам 29 згаданых правілаў, рэалізацыя тавараў без дакументаў, якія пацвярджаюць якасць, забароненая.

Акрамя таго, праверкамі, праведзенымі на калгасным рынку Маладзечанскага райспажывутаварыства, выяўлена рэалізацыя тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі з прайшоўшым тэрмінам рэалізацыі, а таксама з выкарыстаннем вагавымяральных прыбораў, непрыгодных у эксплуатацыі. Праверкай устаноўлена наяўнасць у продажы тавараў, на якіх адсутнічалі ярлыкі і этыкеткі з указаннем даты выпрацоўкі, умоў і тэрмінаў захоўвання.

Індывідуальныя прадпрымальнікі, якія дапусцілі парушэнні, прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. Каб выключыць магчымасць прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці, усе гандляры на рынках павінны ведаць і захоўваць правілы гандлю.

**Камітэт дзяржкантролю, Маладзечна.**

■ ШКОЛЬНАЕ ХАРЧАВАННЕ

## Па асартыменце

**МІНСК. Міністэрства аховы здароўя Беларусі зацвердзіла «Тыповы асартыментны пералік буфетных прадукцый, што рэалізуецца ў сталовых (буфетах) устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй, прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі».**

У асартымент павінны ўваходзіць свежая садавіна і агароднiна, салаты з агародніны і морапрадуктаў, халодныя стравы з яек, мясных і рыбных прадуктаў, тварожныя вырабы, сыры, хлебабулачныя вырабы, арэхі, сухафрукты, кандытарскія вырабы, салодкія стравы, вада пітная негазаваная, расфасаваная ў ёмістасці.

У апошнія гады сур'ёзнай праблемай стала масавае захапленне дзяцей прадуктамі, якія не адпавядаюць прынцыпам здаровага харчавання.

**Паводле БелаПАН.**

■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Памыем вокны!



**Жыхары дома №68а па Вялікім Гасцінцы ў Маладзечне прыбіраюць сваё жыллё. На мінулым тыдні яны мылі вокны ў пад'ездзе.**

Фота Святланы ЦІШКО.



## Курсы валют НБ РБ

| | 29.4 руб. | 6.5 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2153,00 | 2155,00 |
| Еўра | 2567,56 | 2615,85 |
| Злоты | 537,11 | 550,80 |
| Літ | 743,39 | 757,54 |
| Расійскі рубель | 74,59 | 74,57 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2155/2170 | 2155/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 28.4 | 5.5 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13900 | 13900 |
| Сасіскі, 1 кг | 5020 | 5020 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 0,9 кг | 1100 | 1100 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1510 | 1350 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 1200 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 900 | 950 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 900 | 1100 |
| Капуста, 1 кг | 300 | 500 |
| Морква, 1 кг | 400 | 800 |
| Лімоны, 1 кг | 2800 | 2900 |
| Апельсіны, 1 кг | 2300 | 2100 |
| Яблыкі, 1 кг | 1200 | 1100 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 900 | 1000 |
| Смятана, 1 л | 2500 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2000 | 1800 |
| Сала, 1 кг | 3200 | 3000 |
| Бульба, 1 вядро | 2300 | 2000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1100 |

■ ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## Правялі мяжу

**СМАРГОНЬ. Зону адказнасці за чысціню прыватных гаспадарак вызначылі ў Смаргоні і раёне па ініцыятыве інспекцыі па прыродных рэсурсах. Цяпер яна праходзіць па сярэдзіне вуліцы, а калі падвор'е стаіць на беразе рэчкі, то па яе фарватэру.**

Рашэнне, спадзяюцца ў інспекцыі, дапаможа навесці парадак, ліквідаваўшы стыхійныя сметнікі. Новаўведзенне ў Смаргонскім раёне распаўсюджваецца і на лецішчы.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ НАВІНЫ

## Новы корпус для «Надзеі»

**МІНСК. На калегіі Камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Савеце Міністраў было заяўлена аб неабходнасці паскорыць стварэнне медыцынскіх карпусоў у дзіцячых рэабілітацыйна-аднаўленчых цэнтрах «Надзея» (Вілейскі раён).**

«Надзея» арыентуецца на другасную прафілактыку і лячэнне захворванняў органаў дыхання.

Цэнтр мае дыягнастычнае і лячэбнае аддзяленні, аснашчаныя самай сучаснай тэхнікай. У «Надзеі» паказчык паляпшэння стану здароўя летась дасягнуў 93 працэнтаў.

Але работа медыцынскіх службаў цэнтра абцяжарана з-за адсутнасці медыцынскіх карпусоў.

У «Надзеі» плануецца пераабсталяваць шэраг памяшканняў культурны-спартыўнага цэнтра пад медыцынскія кабінеты, а ў перспектыве пабудаваць медыцынскі корпус.

**Паводле БелаПАН.**

■ ПЕРАСЦЯРОГА

## Сезон пікнікоў

**Цёплае вясновае надвор'е яшчэ не паспела добра умацавацца, як гараджане распачалі сезон пікнікоў на прыродзе.**

Аналіз мінулых гадоў паказвае, што ў такі перыяд узрастае колькасць злачынстваў, правапарушэнняў, пажараў у лясах, выпадкаў гібелі на розных вадаёмах. Гэта адбываецца з-за таго, што людзі не захоўваюць меры бяспекі, правілы паводзінаў на вадзе, часцяком купаюцца п'янымі.

Арганізацыі, якія замацаваныя за пэўнымі зонамі адпачынку, вінаватыя, што не наглядаюць іх, як трэба, не захоўваюць у належным стане абсталяванне. У сувязі з гэтым аддзел унутраных спраў праўядзе шэраг мерапрыемстваў па ахове грамадскага парадку ў такіх месцах.

**Інспекцыя аддзялення аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага гаррайаддзела ўнутраных спраў.**

## Анкета
### аб рабоце Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце

Гэта анкета дапаможа міліцыянерам-транспартнікам зрабіць больш эфектыўнай сваю работу. **Падкрэсліце, калі ласка, адказы, якія вы выберыце. Анкету выражце і дашліце на адрас: 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 6, Маладзечанскі АУС на транспарце, або пакіньце ў касе чыгуначнага вакзала.**

**1. Ці даводзілася вам сутыкацца з работай начальніка лінейнага пункта міліцыі апошнія 2–3 гады?**
Часта.
Рэдка.
Толькі ў якасці назіральніка.
Не даводзілася.

**2. Ці маглі б вы аказаць дапамогу супрацоўніку міліцыі, заняць яго бок пры спыненні ім злачынства або правапарушэння?**
Заўсёды.
Амаль заўсёды.
Часам.
Магчыма.
Хутчэй не.
Не.
Ніколі.

**3. Якія змяненні грамадскага парадку адбыліся ў апошні час?**
Палепшыўся.
Нязначна палепшыўся.
Застаўся на ранейшым узроўні.
Нязначна палепшыўся.
Пагоршыўся.
Стала небяспечна.

**4. З якіх крыніц вы часцей даведваецеся што-небудзь аб міліцыі?**
Ад работнікаў міліцыі.
З уласных назіранняў.
З расказаў.
Са сродкаў масавай інфармацыі.
З кніг і фільмаў.
Выпадкова ў транспарце і г.д.

**5. Вы верыце, што начальнік лінейнага пункта міліцыі здольны палепшыць становішча грамадскага правапарадку і бяспекі на тэрыторыі, якую абслугоўвае.**
Так.
Хутчэй так.
Хутчэй не.
Не.

■ ПАВОДЗІНЫ

# Аб правілах бяспекі

**Усё, што можа здарыцца, абавязкова здарыцца. А калі што дрэннае, то толькі не са мной, — так думае большасць людзей і таму бяспечна адносіцца да свайго жыцця.**

У пацвярджэнне гэтаму можна прывесці нямала прыкладаў: на апору электраперадач вешаюць антэны, шпакоўні, паміж імі робяць спартыўныя перакладзіны, да іх прывязваюць коней, а ў цяні трансфарматарных будак кладуцца адпачыць. А толькі адно знаходжанне бліжэй за 2 метры каля апоры ці трансфарматарнай будкі ў выпадку аварыі небяспечна для жыцця.

Вось выпадак, які адбыўся ў Вілейцы. Калі насыпалі зямлю пад мост, што над чыгункай каля Воўкаўшчыны, вадзіцель заблізка пад'ехаў да высакавольтных правадоў, а калі падымаў кузаў, здарылася замыканне. Гэта лінія праходзіць пад напругай 10 тысяч вольт, таму задняя гума МАЗа проста знікла, а валасы вадзіцеля сталі дуба так, што іх потым прыйшлося зразаць нажніцамі па жалезу. Сам ён не загінуў толькі дзякуючы гумоваму дыванку.

У снег ці дождж палова пешаходаў выходзіць на праезную частку. Ды і ў добрае надвор'е дзяўчаты на шпільках разгульваюць па дарозе (шпількі правальваюцца паміж тратуарных плітак). Нядаўна на вуліцы Вадап'янава шчаслівы бацька каціў каляску з дзіцем, бо, па яго словах, на тратуарнай плітцы каляска дрыгаецца і малы можа праснуцца. Але ж трэба памятаць, што пры скорасці руху 60 км/гадз. машына за 1 хвіліну праходзіць 16 м (вышыня 5-павярховага дома). Адзін звяок, п'яны вадзіцель, хворае сэрца, тэхнічныя непаладкі і...



Такія паездкі часта заканчваюцца здарэннямі. Фота ByMedia.Net

А чаго толькі не вытвараюць гора-пасажыры з цягнікоў: ускокваюць і выскокваюць з вагонаў на хаду, пералазяць пад вагонамі і нават вылазяць на дах!

**Ігар КІЦІКАЎ.**

■ ІДЗЕ РАССЛЕДАВАННЕ

## Следчы пад падазрэннем

**МІНСК. Органы пракуратуры расследуюць крымінальную справу ў дачыненні да старшага следчага Мінскага РУУС (прозвішча не паведамляецца ў інтарэсах следства) за ўчыненне злачынства, прадугледжанага артыкулам 167 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Гвалтоўныя дзеянні сэксуальнага характару».**

Паводле звестак БелаПАН, размова ідзе аб чатырох выпадках гвалтоўных дзеянняў сэксуальнага характару ў дачыненні да падлеткаў, якія мелі месца ў снежні 2003 года, лютым і красавіку гэтага года.

Як паведаміў БелаПАН намеснік начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкама палкоўнік міліцыі Анатоль Нізкі, гэта экстраардынарны выпадак для міліцыі, і цяпер у аддзяленні, дзе працаваў абвінавачаны, праводзіцца расследаванне па высвятленні таго, як гэты чалавек трапіў на працу ў органы ўнутраных спраў.

**Паводле БелаПАН.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Стрэлы па хуліганах

**МАЛАДЗЕЧНА. АСТРАВЕЦ. 30 красавіка на станцыі Гудагай супрацоўнік Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце выстраліў па нагах двух хуліганаў.**

Яны моцна збілі свайго равесніка — 19-гадовага жыхара Гудагая. Потым кінуліся і на маладзечанца, які хацеў абараніць пацярпелага. Супрацоўнік міліцыі зрабіў два папераджальныя выстралы, потым стрэліў у хуліганаў. Параненыя яны не моцна і ўжо спрабавалі ўцячы з бальніцы. Прычыны сваркі высвятляюцца. Справай займаецца пракуратура.

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзве дзяўчыны, адна з іх цяжарная, спрабавалі выкрасці ў 21-гадовай маладзечанкі залатыя вырабы.**

Здарэнне адбылося 29 красавіка на вуліцы Міру напачатку 12-й гадзіны ночы. У 00.30 група хуткага рэагавання затрымала зладзеек. Яны неадноўчы ўжо "траплялся" міліцыі. Узбуджана крымінальная справа.

**МАЛАДЗЕЧНА. У доме па вуліцы Новы Свет, што ў раёне Лясных, забілі 76-гадовую жанчыну.**

1 мая гэта зрабіў 23-гадовы жыхар Дзяржынска. У пацярпелай налічылі 15 нажавых раненняў у спіну і 6 у шыю. Забойца арыштаваны. Узбуджана крымінальная справа.

**МАЛАДЗЕЧНА. З дачнага дома ў вёсцы Плябань выкралі 45 кілаграмаў цукру, 50 пачак рознага насення.**

Высветлілася, што гэта зрабіў сын гаспадыні, якая жыве ў Мінску. Злодзей затрыманы. Узбуджана крымінальная справа.

**МАЛАДЗЕЧНА. Адзін з выкладчыкаў гандлёва-эканамічнага каледжа браў хабар – грошы з навучэнцаў за здачу экзамену ці заліку.**

Узбуджана крымінальная справа.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

## Твой участковы

**Працягваем знаёміць чытачоў з участковымі міліцыянерамі рэгіёну. Сёння – зноў вартавыя правапарадку Маладзечна.**



**Руслан Адашкевіч, лейтэнант, тэл. 7-12-25 (Савецкі ўчастак міліцыі).**

Участак: вуліцы Велікасельская (няцотны бок), зав. Велікасельскі, зав. Новы, Купалы, 34-130.



**Віктар Усціновіч, старшы лейтэнант, тэл. 7-45-61 (Цэнтральны ўчастак міліцыі).**

Участак: вуліцы Буйніцкага, Бухаўшчына, Бэзавая, Віленская, 2-38, Валынца, 5-9, 10-14, Вялікі Гасцінец, 54-58, Грамадоўская, 2-10, 1-15, Інтэрнацыянальная, зав.Камуністычны, Лібава-Роменская, 45-129, Прытыцкага, Таўлая, Таращкевіча, Таміліна (цотны бок), Чыстая, Энгельса.

## Прапала жанчына

**Маладзечанскім ГРАУС адшукваецца без вестак прапаўшая Раіса Андрэеўна Палавінкіна, 30.04.1949 года нараджэння, ураджэнка і жыхарка в.Шалыгі Маладзечанскага раёна, інвалід дзяцінства 2-й групы па псіхічным захворванні, якая сёлета 30 красавіка каля 15 гадзін выйшла з дома і да цяперашняга часу яе месцазнаходжанне невядомае. Пазбягала зносін з людзьмі, любіла хадзіць у лесе.**



Прыкметы: на выгляд 56-58 гадоў, рост 153-155 см, сярэдняй паўнаты, твар круглы, бледны, еўрапейскага тыпу, вочы зялёныя малыя, валасы прамыя цёмна-русыя з сівізной, кароткая стрыжка.

Была апранута ў хустку шарсцяную зялёнага колеру ў шэрую клетку, целагрэйку цёмна-шэрую, безрукаўку вязаную шэрую, сукенку шэрую трыкатажную, штаны белыя з чорным узорам, боты гумовыя сіняга колеру.

Просім усіх, каму што-небудзь вядома аб месцазнаходжанні Р.А.Палавінкінай ці аб яе лёсе, паведаміць у Маладзечанскі ГРАУС па тэл. 7-61-55, 7-14-46, 7-61-10 ці 02.

■ МЕРКАВАННЕ

# Бясплатны сыр

**Як бы ні вучылі наш народ, што бясплатны сыр бывае толькі ў мышалоўцы, навука не ідзе на карысць. «Халява, сэр!» — нібы магнітам прыцягвае нашых суграмадзян. І за гэтую халяву яны часам аддаюць апошняе.**

Замест таго, каб рэальна ацаніць і ўзважыць свае магчымасці і здольнасці, людзі часта купляюцца на пустыя абяцанні тых, хто гарантуе ім залатыя горы адразу з панядзелка.

Напрыклад, ёсць такі біяэнэргатэрапеўт, метадыст па ўсходніх аздараўленчых сістэмах і гэтак далей, спадарыня Л. На першую лекцыю «Вылечы сябе сам» у маладзечанскі Дом культуры чыгуначнікаў прыйшло некалькі чалавек. Аднак умела пададзеныя асновы некаторых усходніх вучэнняў зацікавілі шмат каго. На наступнай лекцыі «Усё ў тваіх руках» людзі, гатовыя аддаць грошы за веды пра аўру, правільнае дыханне, розныя дыеты, чакалі цудадзейнага адкрыцця, таму запрашалі сваіх сяброў і знаёмых. Усё аказалася прасцей: ім прапанавалі распаўсюджваць методыку спадарыні Л. і некаторыя лекавыя рэчывы.

Цікавяцца маладзечанцы і экстрасэнсамі. Гэтыя лекары прапануюць усім ахвотным бясплатна падсілкавацца энэргіяй, вылечыцца ад розных хвароб, зняць пракляцці і псоту. Ахвотных — процьма! А ў выніку маладзіца, чарговы экстрасэнс, пашаптаўшы нешта на сцэне перад абразам, сказала, што трэба больш рабіць дабра сабе і іншым. А затым прапанавала купіць «зараджаныя» кнігі, бранзалеты і пласцінкі. Яна сцвярджала, што вылечыла ад страшнай хваробы Валерыя Лявонцьева, пасланую яму зайздроснымі сапернікамі. І што вы думаеце? Бясплатнае лячэнне стала ў выніку добраахвотна платным. Нас зноў падманулі.

Да лекараў і экстрасэнсаў адны людзі звяртаюцца, калі афіцыйная медыцына ўжо бяссільная. Яны спадзяюцца пазбавіцца ад хваробы ці хаця б атрымаць псіхалагічную падтрымку. Аднак дзеля гэтага не абавязкова аддаваць свае грошы выпадковым малавядомым людзям.

**Кацярына ШНІП, студэнтка факультэта журналістыкі БДУ.**

■ СМІ

# Свабода і прэса

**МІНСК. «Беларусь засталася апошняй дзяржавай на карце Еўропы, дзе практычна ўсталявана манаполія дзяржавы на сродкі масавай інфармацыі. З году ў год беларускія ўлады ўзмацняюць прэсінг у дачыненні да выданняў дэмакратычнай скіраванасці. Сёння само існаванне свабоднай прэсы пастаўлена пад пагрозу».**

Пра гэта гаворыцца ў заяве Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ).

Як адзначаецца ў заяве БАЖ, «з пачатку года Міністэрства інфармацыі пяць разоў прыпыняла выхад недзяржаўных выданняў. У гэтым спісе — газеты «Згода», «Вечерний Столин» і нават такія далёкія ад палітыкі выданні, як «Криминальное обозрение», «Версия» і «Детективная газета».

Усё больш абвастраюцца праблемы, звязаныя з друкам і распаўсюдам недзяржаўных газет.

Пашыраецца практыка неабгрунтаванай канфіскацыі накладаў непажаданых уладам СМІ, адзначаецца ў заяве. Асаблівую трывогу ў БАЖ выклікае сітуацыя з газетай «День». Так, 7 красавіка міліцыяй Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці быў канфіскаваны ўвесь наклад 11-га нумара гэтага выдання, які везлі з Расіі. Рэдакцыя зведвае ціск з боку пракуратуры, КДБ і падатковых органаў.

Акрамя таго, як адзначаецца ў заяве, «працягваецца практыка шматмільённых іскаў у дачыненні да недзяржаўных газет. Менавіта сёння найбуйнейшая недзяржаўная газета «Народная воля» вымушана адстойваць свае інтарэсы ў двух судах».

Заява БАЖ адрасавана да беларускіх уладаў. Беларуская асацыяцыя журналістаў патрабуе ад уладаў у стасунках з прэсай кіравацца нормамі Канстытуцыі, Закона аб друку і іншых СМІ, а таксама агульнапрызнанымі нормамі міжнароднага права. Акрамя таго, аўтары заявы патрабуюць спыніць неабгрунтаваны пераслед недзяржаўных СМІ і журналістаў.

Тым часам, міністр інфармацыі Беларусі **Уладзімір Русакевіч** лічыць, што Беларусь па выкананні свабоды прэсы знаходзіцца ў ліку краін-лідэраў. Пра гэта ён заявіў карэспандэнту БелаПАН 4 мая, падчас адкрыцця ў Мінску VIII міжнароднай спецыялізаванай выставы «СМІ ў Беларусі». На пытанне, якімі звесткамі ён апярые, робячы такія сцвярджэнні, міністр адказаў: «Я так мяркую».

**Паводле БелаПАН.**

# Мова ў банках

**Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь, паведаміў у адказе на запыт Таварыства беларускай мовы дырэктар разліковага цэнтра пластыкавых картак «Беларусбанка» А.Багавік, рэкамендаваў беларускім банкам пры абслугоўванні грамадзянаў актыўна выкарыстоўваць дзяржаўную беларускую мову. «Беларусбанк» у адпаведнасці з гэтай рэкамендацыяй цяпер займаецца перакладам форм банкаўскіх дакументаў на беларускую мову.**

Намеснік дырэктара вілейскага філіяла АСБ «Беларусбанк» **Аляксандр Шырочын** сказаў у інтэрв'ю «РГ» па тэлефоне: «Бланкі ў нас пакуль што толькі на рускай мове. Але калі кліент пажадае запоўніць іх на дзяржаўнай беларускай мове, яго таксама абслужаць».

"Бывае, кліенты размаўляюць па-беларуску, — сказала кантралёр-касір ашчаднай касы №36 **Святлана Мяснікова**, — але бланкі пакуль што ўсе запаўняюць на рускай мове".

**Святлана ЦІШКО.**

# Цэнтр Скарыны можа перастаць існаваць

**МІНСК. Кіраўніцтва рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (ТБМ) занепакоена сітуацыяй вакол Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны.**

Цэнтр быў створаны ў 1991 годзе па ініцыятыве сусветна вядомага навукоўца нашага земляка ураджэнца Астравеччыны прафесара **Адама Мальдзіса**. «За 13 гадоў працы супрацоўнікі цэнтра ажыццявілі шматлікія навуковыя і асветныя праекты дзяржаўнага значэння, у тым ліку праект стратэгіі нацыянальна-культурнага і духоўнага развіцця, падтрыманы АБСЕ і ЮНЕСКА. Цяпер цэнтр стала займаецца праблемамі беларускамоўнага навучання і адраджэння нацыянальнай свядомасці», — гаворыцца ў заяве.

Але сёння, адзначае ТБМ, «уладныя структуры маюць нездаровы інтарэс да Скарынаўскага цэнтра яшчэ з 1993 года. Менавіта тады цэнтр, які існаваў у структуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і падпарадкоўваўся Міністэрству культуры, быў перададзены ў падначаленне Міністэрства адукацыі. У 1998 годзе быў звольнены з пасады дырэктара цэнтра прафесар Мальдзіс. У 2001 годзе ён наогул быў пазбаўлены магчымасці працаваць у цэнтры. Са звальненнем вучонага прыпыніўся выпуск інфармацыйна-аналітычнага і культуралагічнага бюлетэня «Кантакты і дыялогі», які трымаўся на энтузіязме Мальдзіса і яднаў паміж сабой беларусістаў усяго свету».

Сакратарыят ТБМ паведамляе, што «Міністэрства адукацыі рабіла некалькі спробаў пазбавіцца Скарынаўскага цэнтра. Чарговая рэарганізацыя ўстановы прадугледжвае яе перадачу ў падпарадкаванне Беларускаму дзяржаўнаму педагагічнаму універсітэту імя Максіма Танка».

У гэтай сітуацыі, лічыць кіраўніцтва аб'яднання, Скарынаўскі цэнтр «губляе статус нацыянальнага, статус юрыдычнай асобы з усімі наступствамі: паступовым згортваннем дзейнасці ўстановы і, як вынік, яе ліквідацыі».

Кіраўніцтва ТБМ выказвае пратэст супраць гвалтоўнага знішчэння адзінага ў сваёй адметнасці, беларускага па сваёй сутнасці Скарынаўскага цэнтра і перасцерагае ўладныя структуры ад неабдуманага і неабгрунтаванага кроку.

**Паводле БелаПАН.**

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.lig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

У мяне тут, у Савецкім Саюзе, у Магілёўшчыне, ёсьць родны дзядзька, які мае дзяцей. На жаль, я іх ніколі ня бачыла. Вось можа й вы зьяўляецеся сынам майго дзядзькі». Добры брат, штыком чуць не папіхаў мяне, ідучы ззаду! Пасьля гэтага ён запытаў мяне, ці хачу піць або есьці, то ён прынясе мне што-небудзь. Калі выйшлі зь цягніка, мой „брацік" далёка астаўся ззаду, не ўпіраўся больш у мяне штыком. Едучы тым цягнікам, мне здавалася, што за сьцяной вязуць майго брата Франка. Пачала зь ім перастуквацца й гутарыць. Задавала яму розныя пытаньні, а ён мне адказваў. Як цяпер аб гэтай гутарцы думаю, то была яна проста галюцынацыяй. Ніякага брата за сьцяной купэ не было, а мне нешта выдавалася. Так былі расстроены нэрвы!

Прывезьлі мяне ў Менск ў турму званай „амэрыканка". Тут толькі падпісала я ордэр аб маім арышце. Лічылася я арыштаванай ад дня прыбыцьця ў Менск, а гэта было на пачатку сьнежня 1949 года. Цэлы месяц сядзела я ў камэры адна. Адна праводзіла першыя Каляды ў заключэньні. Тады я ўлажыла першы ў сваім жыцьці верш, які да сёньняшняга дня помню. Калі яго пазьней дэклямавала сябрам па камэры, усе плакалі:

*Сёньня Каляды.*
*Хрыстос нарадзіўся...*
*Цешацца людзі,*
*што ім аб'явіўся.*
*Ёлкі ўбралі, песьні сьпяваюць,*
*Госьці прыходзяць,*
*жаданьні складаюць.*
*Кожны імкнецца быць са сваімі*
*Сьвята праводзіць ён*
*не з чужымі,*
*А ў роднай хатцы,*
*дзе хто радзіўся,*
*Да грудзей маткі,*
*дзе ён туліўся.*
*І я хацела б быць дома сяньня,*
*Дзяліць з другімі*
*радасьць каханьня.*
*На спацыр выйсьці,*
*суседзяў адведаць,*
*Музыкі паслухаць,*
*пабяседаваць.*
*Мела і я каліСь родную хатку,*
*Братоў, сясьцёр,*
*бацьку і матку,*
*Куцьцю ўрачыстую*
*і мы прыгатаўлялі,*
*Сьвечкі і цацкі*
*на ёлку чаплялі.*
*Але нядоўга нам*
*сонца сьвяціла,*
*Бацькі памерлі –*
*гора прыбыла.*
*Сям'я рассыпалася*
*па сьвеце цэлым,*
*Хаваючы смутак*
*у сэрцы збалелым.*
*Ані адно не знайшло*
*з нас долю,*
*Замест шчасьця –*
*пайшлі ў няволю.*
*Пакутаваць за грахі чужыя;*
*Няведама за чые і за якія.*

Турма была круглая. У камэрах былі ложкі. Выводзілі на прагулку й давалі да чытаньня кнігі. На жаль, усе на рускай мове, хоць сядзела я ў сталіцы Беларусі. Аднойчы прынесьлі мне кнігу, на вокладцы якой я ўбачыла надпіс „Якуб Колас". Як жа да яе кінулася! Нарэшце далі мне кнігу на беларускай мове! Тут жа адразу й расчаравалася. Калі кнігу адкрыла, убачыла, што яна ў перакладзе на рускую мову. Якуб Колас на рускай мове гучаў чужым і далёкім.

Пачалося сьледзтва. Справу маю вёў Кутузаў. Не магу сказаць, каб ён быў вельмі кепскі. Ня білі мяне, а толькі мучылі бяссонніцай. Не давалі мне ані ноччу, ані днём спаць. На дапрос клікалі ноччу, трымаючы доўгія гадзіны. Не пасьпела, бывала, вярнуцца ў камэру й легчы ў пасцель, як ізноў адчынялася акенца й мяне вызывалі. І так тры-чатыры разы за ноч. А днём не дазвалялі нават сесьці на ложку. Калі толькі седзячы пры стале я здрамнула, адчынялася акенца й стражнік загадваў разбудзіць мяне. Тады каторая-небудзь з заключаных біла мяне пальцам па носе. Не напісала я, што пасьля месяца далі мне ў камэру сяброВак па няшчасьці, і так сядзела са мной лекарка зь Менска, балерына Марыя Сьцепанец і розныя іншыя. Была таксама так званая „наседка" або „стукачка" Марыя, пасаджаная для таго, каб даносіць начальству, аб чым вязьні з сабою гутараць. Нялёгка мне было сядзець зь імі, бо большасьць варожа адносілася да „заходнікаў". Ня мела я шчасьця быць разам хоць з аднэй „западніцай".

Ад недасыпаньня пачаў мяне мучыць моцны галаўны боль.

Лістоў пісаць нельга было й паведаміць сваіх родных аб тым, дзе я знаходжуся. Не атрымлівала я ніякіх перадач. Нікога ніхто не адведваў. Некаторыя вязьні перадачы атрымлівалі й часта вельмі добрыя. Дзяліліся са мною.

Сьледавацель мой быў, як артыст. Адзін раз жартаваў са мною й сьмяяўся, іншым разам безь ніякае прычыны крычаў, як ашалелы. Кожную ноч клікаў мяне і ўсё пісаў пратаколы, а я іх падпісвала. Прыпісалі мне многа ўсяго, чаго зусім не было. Будучы ў часе вайны перакладчыцай, крыўды ніякай нікому не зрабіла. Наадварот, шмат каму дапамагла. Некаторых выратавала ад сьмерці, ведаючы нямецкую мову.

**Анеля КАТКОВІЧ.**

Працяг будзе.

■ ВЫСТАВЫ

# Аўтасалон «Мотаршоу»

**МІНСК. У Мінску пачаў працу IV Міжнародны аўтасалон «Мотаршоу». Сёлета выстава праходзіць з 4 па 9 мая і, у адрозненне ад трох мінулых гадоў, месцам правядзення абраны не спартыўны комплекс ва Уруччы, а крыты Футбольны манеж на праспекце Машэрава.**

Як заявіла на адкрыцці аўтасалона дырэктар Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі (БАА), мінскі аўтасалон «Мотаршоу», што стаў ужо традыцыйным, можна лічыць асновай для выйсця аўтамабільнага руху Беларусі на новы ўзровень. Амаль трохразовае павелічэнне плошчаў выставы дазволіла максімальна ўлічыць інтарэсы ўсіх удзельнікаў. Генеральны дырэктар галоўнага арганізатара выставы ТАА «Рэ-Марк» **Дзмітрый Ярота** адзначыў, што аўтамабільны рынак Беларусі працягвае расці значнымі тэмпамі. Паводле звестак Дзяржаўтаінспекцыі, летась аўтарынак вырас прыкладна на чвэрць. Мяняюцца і стандарты правядзення «Мотаршоу». На сёння футбольны манеж, дзе праходзіць аўтасалон, — гэта найбуйнейшае ў краіне памяшканне пад дахам, плошча якога складае 12 тысяч квадратных метраў, што амаль у два з паловай разы перавышае плошчу спартыўнага комплексу ва Уруччы. «Мажліва, міне год-два і ўжо плошчаў гэтага манежа для «Мотаршоу» будзе бракаваць», — сказаў Дзмітрый Ярота.

Паводле звестак арганізатараў, сёлета на аўтасалоне выстаўлена каля 20 аўтамабільных марак і практычна на кожным дылерскім стэндзе прэзентуюцца навінкі. На стэндзе БМВ наведвальнікаў прыцягнуць «Тройка»-кабрыялет, стыльны родстэр Z4 і новы «хіт» баварскага канцэрна — выкшталцоны кабрыялет 6-й серыі.

На стэндзе «Мерседэс-Бэнц» — найноўшы родстэр SLK. На «Мотаршоу» можна таксама ўбачыць адну з самых гучных прэм'ер апошняга часу — пятае пакаленне «Фольксваген Гольф». Ёсць адразу тры аўтамабілі з рознымі рухавікамі і ўзроўнем камплектацыі.

Галоўнай прэм'ерай стэнда «Вольва» можна назваць новае пакаленне мадэлі S40. Аматараў маркі «Опель» зацікавіць дэбютант Франкфурцкага аўтасалона — новы «Опель Астра». Аматараў расійскіх аўтамашын чакае прынцыпова новы якасны прадукт сям'і ВАЗ — «Лада Каліна».

Планавалася, што шоу-карам аўтасалона стане дзіця аўтамабільнай цывілізацыі, якое ўсталявала для сусветных рэкорды хуткасці для серыйных аўтамабіляў, — «Ламбаргіні Мурсілага». Аднак у сувязі з уступленнем Літвы з 1 мая ў Еўрасаюз узніклі праблемы з вывазам машыны з суседняй дзяржавы. Таму арганізатары ў апошні момант былі вымушаны абраць іншы аўтамабіль для прэзентацыі на аўтасалоне ў якасці шоу-кара.

Кошт білетаў на «Мотаршоу» для звычайных наведвальнікаў застаўся на ўзроўні 2003 года. Тады дзіцячы білет каштаваў 5 тысяч рублёў, дарослы — 15 тысяч.

Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.



Экспазіцыя матацыклаў Харлей-Дэвідсан, выстава «Мотаршоу», футбольны манеж, Мінск, 4 мая. Фота ByMedia.Net.


Экспазіцыя аўтамабіляў Пежо. Фота ByMedia.Net.


Купэ-кабрыялет БМВ 6-й серыі, «Мотаршоу», Мінск, 4 мая. Фота ByMedia.Net.

■ КОНКУРС




## Выйграй прыз ад 1-й акумулятарнай

**Конкурс, які "РГ" праводзіць разам з 1-й акумулятарнай кампаніяй, вітае прыхільнікаў аўтамабільнага свету! Жадаем спраўнага акумулятара, масла ў норме, роўнай і сухой дарогі.**

Месяц таму мы прапанавалі з трох варыянтаў адказу выбраць правільны. Пытанне было наступным:

Створаны ў 1947–50 гадах непадалёк ад чыгуначнай станцыі Жодзіна завод праз некаторы час стаў славутым БелАЗам. Завод стаў спецыялізавацца на выпуску кар'ерных самазвалаў вялікай грузападымальнасці. Вядома, што ў пачатку 90-х прадпрыемствам кіраваў ураджэнец Вілейскага раёна, які пасля ў Вярхоўным Савеце Беларусі ўваходзіў у камісію па знешнеэканамічных сувязях. Пасля смерці нашага земляка яго іменем у Жодзіне названая вуліца. Як звалі гэтага нашага земляка?

А) Валеры Карповіч,

Б) Дзмітры Сыракваш,

В) Аляксей Субач.

Правільны адказ – Дзмітры Сыракваш. Так адказалі маладзечанцы **Наталля Закалінская, Тамара Камінская, Ірына Шпілеўская, Анатоль Шпілеўскі, Марыя Пакладок, Вадзім Сярпейка, Чура Дзмітры, Павел Сярпейка, Аксаначка Канстанцінава** з Мінска і вiляйчанка **Г.Л. Сянько**. Вось што яна, дарэчы, напісала:

«Рэгіянальную" чытаю з першых нумароў, з пачатку яе стварэння, заўсёды ўважліва знаёмлюся з яе матэрыяламі. Ваш конкурс я разгадвала і раней, але не пісала вам, а зараз вырашыла напісаць. Правільны адказ: **Сыракваш Дзмітры Іванавіч**, які нарадзіўся ў Куранцы Вілейскага павета, выпускнік Мінскага політэхнічнага інстытута, узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй СССР, ордэнамі і медалямі.

**З павагай Сянько Г.Л."**

Прыз выпаў (цягнула жэрабя карэспандэнт "Рэгіянальнай газеты" Святлана Цішко) на Ірыну Шпілеўскую. Запрашаем у рэдакцыю па ўзнагароду – каністру высакаякаснага машыннага масла ад 1-й акумулятарнай кампаніі.

## Адкажыце на пытанне

**Вынаходнік Бэнц з Германіі запатэнтаваў у 1886 годзе аўтамабіль з рухавіком унутранага згарання. Гэты год лічыцца годам нараджэння першага аўтамабіля. Хаця яшчэ раней з'яўляліся розныя машыны–прататыпы аўто. Напрыклад, павозка з паравым рухавіком пабудаваная ў 1769– 1770 у Францыі Каньё. Колькі колаў меў першы аўтамабіль Бэнца?**

Дашліце адказ, напісаны абавязкова на паштоўцы, на адрас рэдакцыі. Тэрмін прыёму іх – да 25 мая. Вынікі туру будуць апублікаваныя ў наступным выпуску "Аўта-мота".

Мікола ГАЙДУК.

# Першы раз у школу

**Якіх вы ведаеце птушак? І хто большы: карова ці каза? Прыкладна на такія пытанні адказваюць будучыя першакласнікі, што прыходзяць на сумоўе да школьнага псіхолага.**

З канца красавіка да 1 верасня бацькі 6-гадовых дзяцей прыносяць дакументы ў школы, гімназіі, гімназіі-каледжы. Аднак звычайна да канца чэрвеня, патлумачыла псіхолаг СШ№2 Іна Дзіткоўская, усе класы ўжо сфарміраваныя. Мамы і таты стараюцца вырашыць гэтае пытанне як мага раней.

У розных школах прыём дакументаў арганізаваны па-рознаму. У СШ№2 вырашылі, што лепш, калі гэта будуць рабіць псіхолагі. Так яны могуць пагаварыць з бацькамі, паглядзець, ці ёсць якія-небудзь медыцынскія праблемы. Затым прызначаюць час гутаркі. Іна Дзіткоўская падкрэсліла, што пры паступленні ў агульнаадукацыйную школу (гімназіі гэта не тычыцца) сумоўе з дзіцем праводзяць толькі калі бацькі не супраць. У школу прымаюць усіх дзяцей, таму сумоўе не абавязковае. «Гэта не тэсціраванне, а сумоўе. Задача псіхолага – дапамагчы дзіцяці і бацькам вызначыць, у якім класе (напрыклад, з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы ці матэматыкі) будуць найбольш спрыяльныя ўмовы менавіта для гэтага першакласніка». Бывае, расказала яна, што дзіця не вымаўляе некалькі гукаў, а мама хоча, каб яно вучылася ў класе з паглыбленым вывучэннем замежнай мовы. Такі выпадак быў у СШ№2. Псіхолагі тлумачылі, што хлопчыку з такім дэфектам маўлення будзе цяжка ў класе з паглыбленым вывучэннем замежнай мовы. Мама настаяла, а праз паўгода сама прасіла, каб яе сына перавялі ў іншы клас.

Для паступлення ў гімназію-каледж, сказала намеснік дырэктара па пачатковых класах Вольга Хазікава, сумоўе з псіхолагам і спецыялістамі па розных відах мастацтва абавязковае. Аднак гэта не значыць, што дзіця ў гімназію-каледж не возьмуць. «За ўвесь час існавання нашай установы, – сказала Вольга Хазікава, – мы адмовілі толькі разы 2, але толькі па стане здароўя».

### Пагавары са мной

Кожны псіхолаг падбірае свае пытанні для сумоўя, аднак аснова ва ўсіх аднолькавая. «Нічога незвычайнага мы не пытаемся, – запэўніла псіхолаг Іна Дзіткоўская. – Апытальны ліст заснаваны на праграме дзіцячага сада». Звычайна дзіцяці задаюць пытанні кшталту «колькі табе год?», просяць назваць імя і імя па бацьку мамы, пытаюцца, «ці хочаш ісці ў школу?». Іна Дзіткоўская заўважыла, што некаторыя дзеці хочуць у школу, таму што ім дадуць новы партфель, ручку. Псіхолагі называюць гэта знешняй матывацыяй: я, такі дарослы, іду з партфелем, буду сядзець за партай.

Яшчэ псіхолаг можа прапанаваць наступныя заданні:

- складзі апавяданне па малюнках. Адны дзеці расказваюць з падрабязнасцямі, заўважаючы дробныя дэталі, іншыя даюць толькі сюжэт без апісанняў;

- знайдзі лішняе слова. Самы просты прыклад – сабака, дом, кошка. Лішняе слова – дом. Адзін з самых складаных – секунда, гадзіна, год, вечар, тыдзень. Лішняе слова – вечар;

- назаві адным словам тэлевізар, халадзільнік, прас. Правільны адказ – бытавая тэхніка, хаця адзін хлопчык сказаў «мэбля».

Як бы дзіця ні адказвала, яго прымуць у школу. У школу не бяруць толькі тых, хто мае цяжкія псіхічныя захворванні. Гутарка з псіхолагам неабходная толькі для таго, каб убачыць узровень падрыхтаванасці да школы. У выніку спецыяліст можа параіць, над чым трэба яшчэ папрацаваць летам: развіваць слыхавую памяць, увагу ці маляваць ручкай узоры, каб распрацоўваць руку.

### У 6 ці ў 7?

Паводле закона, растлумачыла Іна Дзіткоўская, у першы клас ідуць тыя беларусы, якім на 1 верасня споўнілася 6 гадоў, калі няма абмежаванняў па медыцынскіх прычынах.

Некаторыя мамы баяцца, што іх 6-гадовае дзіця не справіцца з праграмай, пытаюцца ў псіхолага: «Як вы лічыце, можа, нам яшчэ год пачакаць?». Параіць што-небудзь цяжка. «Мы бачым дзіця толькі 15-20 хвілін, – сказала Іна Дзіткоўская. – Бацькі ведаюць сваё дзіця лепш, і апошняе слова застаецца за імі». Аднак, заўважыла яна, яшчэ год у садзе дзіця будзе займацца па той самай праграме, па якой займалася летась, і таму можа засумаваць, страціць цікавасць да навучання. Да таго ж у першым класе навучанне вядзецца на базе дзіцячага сада: у дзіцячым садзе ў дзяцей 4 занняткі па 35 хвілін, у 1 класе – 4 урокі па тых жа 35 хвілін. І такі самы пасляабедзенны сон.

**Святлана ЦІШКО.**

# Уратуем сем'і

**ВІЛЕЙКА. Праведзеная ў горадзе прафілактычная аперацыя "Сям'я" паказала, што кватэр, дзе квітнее п'янства, год ад году не менее.**

Маці і дачка жывуць у інтэрнаце завода "Зеніт". Цяжка, бедна, плюс да ўсяго ў голадзе і брудзе. Жанчына ўжо даўно не працуе і ў свае 35 гадоў выглядае на ўсе 55. За гарэлкай няма часу сачыць ні за знешнім выглядам, ні за пакоем, у якім рэдка бывае парадак. Затое госці – ледзь не кожны дзень. Падчас аднаго з застолляў усім ім раптам стала цесна на плошчы ў 11 з паловай квадратных метраў. Лішняга чалавека знайшлі хутка. Ім стала дзесяцігадовая дачка гаспадыні, якую маці адразу збіла, а пасля выкінула на калідор. Дзяўчынку забралі ў бальніцу, а тую, што нарадзіла, чакае пазбаўленне бацькоўскіх правоў.

Наведала камісія, у склад якой увайшлі прадстаўнікі ад медыцыны, адукацыі, міліцыі, і іншыя нядобранадзейныя сем'і. "У асобных з іх, — расказвае інспектар раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Алена Альфер**, — я была не ўпершыню. Крыўдна, што ні ўгаворы, ні прафілактычныя гутаркі на людзей не дзейнічаюць, страшна, што ў наш сыты час дзеці галадаюць".

У 10 гадзін раніцы прыйшлі члены камісіі ў сям'ю Л. Гаспадары ўжо гулялі. За заваленым брудным посудам сталом размяралі чарговую бутэльку гарэлкі, частавалі гасцей. Доза, відаць, была прынята нежартоўная. Гаспадыня не тое што гаварыць, варочаць языком не магла. Затое муж яе характар паказаў: "Вы б лепш дапамаглі, — сказаў ён прадстаўнікам грамадскасці, — а то ўсё вучыце".

"У такіх сем'ях, – гаворыць Алена Альфер, – знаюць толькі адно слова "дай". Але колькі ім ні дапамагай, усё адно будзе мала. Грошы прап'юць, прадукты за два дні з'ядуць, а адзенне, якое забрудзіцца, кінуць у кут і яшчэ патрабаваць будуць. Ім жа за гарэлкай няма часу ні мыць, ні гатаваць, ні на работу хадзіць".

У вышэйзгаданай сям'і таксама ніхто не працуе. На што жывуць? На дзіцячую дапамогу ды пенсію, што атрымліваюць на сына-інваліда. Пры такім укладзе жыцця хапае яе ненадоўга. Але мяняць яго гэтыя людзі не збіраюцца.

Адзін мільён 48 тысяч рублёў. Такі доўг за кватэру мае віляйчанка Н. Хаця чым яго пагасіць, калі жанчына даўно ўжо нідзе не працуе. Забылася і на сваіх чацвярых дзяцей, якіх кормяць, каб не памерлі галоднай смерцю, чужыя людзі.

"П'янства, — разважае Алена Альфер, якая ў складзе камісіі абышла ўсе нядобранадзейныя сем'і горада, – квітнее. У мінулым годзе пазбавілі правоў на дзяцей 27 бацькоў. Аб сваім будучым задумалася толькі адна жанчына: закадзіравалася, працаўладкавалася і забрала дачку дадому".

**Марына СЛІЖ.**



П'янства жанчыну не ўпрыгожвае.

Фота ByMedia.Net.

# Пераможцы алімпіяд

**Рэспубліканскія школьныя прадметныя алімпіяды адбыліся нядаўна ў розных гарадах краіны. Сёння мы прадстаўляем удзельнікаў ад нашага рэгіёну, якія сталі прызёрамі і пераможцамі, а таксама іх настаўнікаў.**

| Горад (раён)* | Вучань | Школа, кл. | Прадмет | Месца | Настаўнік–куратар |
|---|---|---|---|---|---|
| Маладзечна | **Таццяна Семашкевіч** | гімн. №3, 9 кл. | фр. мова | Дыпл. II ст. | **Антаніна Куканчык** |
| | **Сяргей Юшкевіч** | гімн. №6, 9 кл. | фізіка | Дыпл. I ст. | **Міхаіл Лятун** |
| | **Ірына Джуро** | гімн. №6, 9 кл. | геаграфія | Дыпл. I ст. | **Людміла Разанава** |
| | **Аляксандр Нікіцкі** | шк.-ліцэй №7, 11 кл. | біялогія | Дыпл. I ст. | **Таццяна Сушынская** |
| | **Сяргей Карпук** | шк.-ліцэй №7, 11 кл. | біялогія | Дыпл. I ст. | **Таццяна Сушынская** |
| | **Юлія Усціновіч** | шк.-ліцэй №7, 11 кл. | руская мова | Дыпл. III ст. | **Тамара Сіманенка** |
| | **Ганна Кіслая** | шк.-ліцэй №7, 9 кл. | гісторыя | Дыпл. III ст. | **Тэрэза Аноп** |
| | **Сяргей Сціборскі** | шк.-ліцэй №7, 9 кл. | матэматыка | Дыпл. III ст. | **Вікенцій Сірота** |
| | **Дзяніс Лаеўскі** | СШ №9, 11 кл. | гісторыя | Дыпл. III ст. | **Канстанцін Рафеенка** |
| | **Анастасія Бурак** | Беларуская гімн. | ням. мова | Дыпл. I ст. | **Людміла Казак** |
| | **Вольга Морман** | Беларуская гімн. | бел. мова | Дыпл. II ст. | **Ірына Рыбакова** |
| | **Аляксандр Пеўнеў** | Беларуская гімн. | геаграфія | Дыпл. III ст. | **Галіна Дрокіна** |
| | **Анастасія Траскевіч** | гімн.-каледж | геаграфія | Дыпл. II ст. | **Людміла Полаз** |
| | **Вадзім Асіповіч** | гімн.-каледж | геаграфія | Дыпл. II ст. | **Людміла Полаз** |
| | **Сяргей Яршэвіч** | гімн. каледж | геаграфія | Дыпл. III ст. | **Ігар Міцько** |
| Ашмяны | **Дзмітрый Нядведскі** | СШ №1, 7 кл. | матэматыка | Дыпл. III ст. | **Вераніка Пашкевіч** |
| | **Андрэй Завадскі** | СШ №3, 11 кл. | англ. мова | Дыпл. III ст. | **Людміла Усанава** |
| Смаргонь | **Сяргей Петрушэнка** | СШ №6, 11 кл. | гісторыя | Дыпл. III ст. | **Ігар Шчасны** |
| | **Кірыл Пінчук** | гімн. №4, 11 кл. | хімія | Дыпл. II ст. | **Валянціна Ляпеха** |
| Вілейка | **Аляксандр Мандрык** | гімн. "Логас", 9 кл. | матэматыка | Дыпл. III ст. | **Вольга Занкавіч** |
| | **Артур Маўчанаў** | гімн. №2, 11 кл. | хімія | Дыпл. II ст. | **Наталля Кобрык** |
| | **Павел Мінін** | СШ №3, 10 кл. | хімія | Дыпл. III ст. | **Святлана Ляўко** |
| | **Сяргей Крачкоўскі** | СШ №3, 10 кл. | хімія | Дыпл. III ст. | **Святлана Ляўко** |
| Мядзел | **Юрый Катляроў**** | СШ №1, 8 кл. | геаграфія | Дыпл. I ст. | **Раіса Місуна** |
| | **Наталля Рамейка** | СШ №2, к.п.Нарач | біялогія | Дыпл. I ст. | **Алена Раманькова, Іна Шнайдэр** |

*Вучні з Астраўца і Валожына – па адным удзельніку – выступалі, але, на жаль, не сталі прызёрамі. Не перамаглі таксама прадстаўнікі раённых школ рэгіёну.

**Васьмікласнік **Юрый Катляроў** выступаў сярод дзевяцікласнікаў.

Адзінаццацікласнік **Аляксандр Нікіцкі** з маладзечанскай школы-ліцэя №7, які заняў першае месца па біялогіі, будзе ўдзельнічаць у міжнароднай алімпіядзе па гэтым прадмеце.

**Падрыхтаваў Сяргей ЗЯНЬКО.**

# Вайна пісала смяротны сцэнарый



Уладзімір Алашэеў.

Фота з сямейнага архіва Уладзіміра АЛАШЭЕВА.

### Самы доўгі дзень 1941 года

Ваенфельчар Алашэеў саскочыў з падножкі таварнага вагона. Зямля загойдалася пад нагамі. І не дзіва: 46 сутак калыхала іх чыгунка. Пагрузіўся іх артылерыйскі полк 6 мая ля Пярмі. Ды аб'ездзіў і Расію, і Беларусь, і Літву. Пад Ленінградам на станцыі Мга стаялі крыху, а ля Ваўкавыска нават выгрузіліся. Але праз некалькі сутак рушылі ў Літву. Праехаўшы Варэну, цягнік, цяжка сапучы ад стомы, спыніўся ў лесе.

Разгрузіліся. Артылерысты хутка абсталявалі баявыя пазіцыі. Тут жа вырас палатачны гарадок. Запахла капустай і кашай. Прывычная лагерная мітусня. Побач граніца, за якой прытаілася быццам бы дружалюбная нам Германія.

— Рванём да дзяўчат! – прапанаваў хтосьці з сяброў. – Калі праязджалі міма хутароў, заўважыў, што моладзь збіраецца на танцы. Заўтра нядзеля, 22 чэрвеня, — самы доўгі летні дзень. Паспеем і адпачыць.

Вярталіся з вечарынкі ў свой лес пад раніцу ў прыўзнятым настроі.

— Якія цудоўныя людзі! – абменьваліся ўражаннямі камандзіры. – Аказваецца, гэта ж Беларусь, якую ў кастрычніку 1939 года Сталін аддаў Літве. Кругом заможныя хутары. Вялізныя сады, прыгожыя будынкі. Модна апранутыя людзі. Моладзь на веласіпедах. Шчыра пачаставалі, запрасілі ў лазню: для нас спецыяльна прапаляць.

Маладыя камандзіры не маглі нават у кашмарным сне ўявіць, якую крывавую лазню падрыхтаваў для іх "дружалюбны" Гітлер.

Ужо праз якой паўгадзіны неба пагражальна зараўло хмарамі нямецкіх самалётаў. Суседні ваенны гарадок узляцеў у паветра ў чорных аблоках. Па шашы пазіцыі іх палка сталі абыходзіць варожыя танкі. А як толькі артылерысты адкрылі агонь па танках, і над іх гарадком "юнкерсы" закружылі смяротную карусель. Ваенфельчар Алашэеў з санітарамі ледзь паспявалі перавязваць раненых. Здавалася: канца не будзе гэтаму жахліваму, самаму доўгаму дню лета.

Вынікі налёту былі жудаснымі: шмат забітых, яшчэ больш параненых. Загінулі коні – цяглавая сіла іх 76-міліметровых пушак. Расстралялі ўсе снарады, а базы забеспячэння яны не маюць. Няма сувязі з камандаваннем, з суседзямі. Ніякіх загадаў – а рукат бою аддаляецца на ўсход. Таму вечарам камандзір палка загадаў: замкі ад пушак знішчыць, раненых узяць з сабой і прарывацца на ўсход да лініі фронту.

24 чэрвеня раніцай іх зноў адшукалі "юнкерсы". Алашэеў кінуўся на чарговы крык раненага. Раптам – успышка, цяжкі ўдар і правал у бездань забыцця...

Невядома калі непаслухмяныя павекі адкрылі яму чырвоны свет: туманныя сілуэты дрэў і кустоў... Навокал – чырвоныя трупы, працятыя штыкамі. Некаторыя – з выкалатымі вачыма. Жах страсянуў яго: фашысты дабівалі параненых... Яго, непрытомнага, відаць, палічылі мёртвым. І толькі гэта ўратавала яго ад смерці.

Піць... Пякучая смага вымушала нават жыццё аддаць за глыток вады. На яго стогны з кустоў падпоўз паранены з біклажкай гаючай вады.

— У вас, таварыш ваенфельчар, твар заліты крывёю. Перавяжам рану на галаве, — прапанаваў сябра па нядолі. – Свалата! Калолі раненых... Усіх...

### Палкі імя Суворава, Кутузава...

Натоўпы параненых і адстаўшых ад часцей прабіраліся лясамі на грукат баёў. Збіраліся дзесяткі, сотні... Выйшлі на тэрыторыю Латвіі. Ад стомы і голаду кружылася ў галовах. Непадалёку ад Краславы з шашы данеслася музыка і запрашэнне нямецкага зазывалы:

— Эй, камарад! Хлябаць шчы хадзіць! Наша кухня, — раўла радыёўстаноўка.

— Сынкі! Не хадзіце! – перасцерагаў пажылы камандзір. — Я па першай сусветнай ведаю: немцы – майстры правакацый і подласці... А цяпер фашысты пераплюнулі тых, ранейшых...

Але некаторыя прыхавалі ў кустах зброю і кінуліся да кухні. Уселіся ўзбоч дарогі, "хлябаюць" з касак. А як толькі адышліся ад кухні, услед ударылі кулямёты...

Аднойчы яны сустрэлі арганізаваны атрад. Вёў яго маёр Шчыглоў, былы камандзір артылерыйскага палка.

— Каб прарвацца да сваіх, патрэбна ваенная дысцыпліна, — заявіў маёр.

Ён разбіў усіх сваіх чырвонаармейцаў на сотні, якія сваім загадам пераназваў у палкі імя Суворава, Кутузава і г.д. На чале палкоў паставіў старшых па званні: капітана, нават малодшых камандзіраў.

— Мы яго любоўна называлі "наш камандарм", — успамінае тыя горкія дні адступлення Уладзімір Георгіевіч. – Жалезная дысцыпліна цэментавала палкі. Ішлі начамі. У лясах адшуквалі ваенныя склады з прадуктамі і боепрыпасамі.

У горадзе Дагда трапілі ў засаду. З паддашкаў іх калону апякалі кулямётным свінцом латышскія айзсаргі. Нападнікаў знішчылі, але і чырвонаармейцаў шмат недалічыліся. За вецер высылак, які сеялі ў Латвіі энкавэдэшнікі, буру нянавісці пажыналі невінаватыя байцы. Давялося абмінаць паселішчы.

Зямля была ўсеяна нямецкімі лістоўкамі: "Здавайцеся! Масква ўжо наша!" Некаторыя з байцоў ужо завагаліся. Камандарм выкрываў хлусню нямецкай прапаганды:

— Маскву ўзялі? Брахня! А чаму гэта гром баёў не сціхае перад намі. Сілай нікога не трымаем. Але ўцёкшых спытаем: "Што ты зрабіў для выратавання Радзімы ў яе трагічныя дні?".

### Сартаванне па-заградатрадаўску

Пад Новасакольнікамі камандарма Шчыглова затрымаў заградатрад. "Заградальнікі" дзейнічалі хутка і па-варварску. Пастроілі 2-тысячную "армію" Шчыглова і на вачах усіх тут жа расстралялі чатырох байцоў, што не мелі зброі. А маёра Шчыглова "ўдзячна" арыштавалі за тое, што яго полк пакінуў 150-міліметровыя пушкі, калі скончылася паліва для трактароў. Арыштавалі па надуманых прычынах і шмат іншых... Раненых накіравалі ў Вялікія Лукі, дзе ваенфельчара Алашэева ставілі на ногі да канца ліпеня 1941 года. Пасля выздараўлення Уладзімір Георгіевіч тры месяцы ваяваў на Волхаўскім фронце. Іх дывізія то захоплівала левы бераг Волхава, то яе са стратамі зноў адганялі на правы бераг. 17 лістапада 1941 года ён атрымаў цяжкае раненне, у выніку чаго залечваў раны да ліпеня 1942 года – цэлыя восем месяцаў.

На гэты раз Алашэева накіравалі на Паўночна-Заходні фронт пад Старую Русу. Удзельнічаў у наступленні савецкіх войскаў, якія спрабавалі перарэзаць "гарлавіну" Дзямянскага выступу ворага. Але немцы вялікімі сіламі ўдарылі па наступаючых так, што адкінулі іх нават за раку Ловаць.

Тады была створана пошукавая група, якой загадалі ноччу пераправіцца праз Ловаць на захопленую ворагам тэрыторыю, каб вывесці адтуль раненага камандзіра палка. З групай накіравалі і ваенфельчара Алашэева. У штабной зямлянцы пошукавая група камандзіра палка ўжо не знайшла. Але Алашэеў вынес праз небяспечныя прыгоды металічны сейф з палкавымі дакументамі. За гэта ён атрымаў першую сваю ўзнагароду – ордэн Чырвонай Зоркі.

### Дзяды Марозы – у нямецкай форме

У канцы снежня іх батальён адвялі ад перадавой за кіламетраў сем на даўкамплектаванне. Тут Алашэеў, камандзір санітарнага ўзвода, і сустракаў з баявымі сябрамі Новы 1943 год.

Адпачываюць у цёплай зямлянцы. Нарэшце разуліся, распрануліся, карабіны павесілі на сцены. На стале – сціплая закусь і пляшка гарэлкі. Чакаюць 12 гадзін ночы. Алашэеў расказвае:

— Нарадзіўся я ў 1920 годзе ва Ульянаўску, дзе і скончыў фельчарскі тэхнікум у 1939 годзе. Працаваў фельчарам ва Ульянаўскім вышэйшым ваенна-інжынерным вучылішчы сувязі. У кастрычніку 1940 года прысвоілі званне ваенфельчара і накіравалі ў Перм у артылерыйскі полк. А 6 мая 1941 года мы выехалі ў Літву на самую граніцу, дзе і застала нас вайна.

— Вось бы да нас, "курортнікаў", шусь Дзед Мароз з падарункамі, — летуценна ўслых выказаў пажаданне хтосьці з сяброў.

І тут адхінаецца ўбок плашч-палатка і ў зямлянку ўсоўваецца... немец з аўтаматам!

— Уф, кальт, хо-лят-на, — скардзіцца ён і накіроўваецца да печкі. – Гітлер капут!

Да карабінаў нашым "курортнікам" не дацягнуцца. Аслупянелі ад такой нязвыкласці. А тут заходзіць другі нямецкі аўтаматчык, здымае зброю ды пытаецца:

— Дзе давацца ў пальён?

Аслупяненне праходзіла доўга, і халодны пот працяглы час лізаў спіны "курортнікаў". Але Новы год замочвалі з немцамі ў абдымку. Хапала выкрыкаў: "Рус гут – Гітлер капут!".

— Ды якога д'ябла весці фрыцаў па холадзе ў штаб? Раніцай і завядзём, у першы дзень 1943 года, — рашылі "курортнікі".

Завялі ўранку ды зманілі, што немцаў узялі ў палон толькі цяпер. Але ў штабе палка "палонныя" растлумачылі, што яны самі здаліся яшчэ ў 1942 годзе! Вось было кпінаў з нашых ўмекаў браць у палон "языкоў"... А вартавы растлумачыў, што ён на хвілінку адлучаўся па патрэбе, таму немцы прашмыгнулі ў зямлянку і "разыгралі ролю" Дзядоў Марозаў.

### Да Эльбы

На пачатку лета 1943 года іх дывізію перакінулі на Арлоўскі напрамак. Таму Уладзімір Георгіевіч удзельнічаў у Курска-Арлоўскай мясарубцы. У вялізнай варонцы ад авіябомбы арганізаваў ён перавязачны пункт. Калі нашы адступілі, ён застаўся з раненымі ў нейтральнай зоне. За гэты мужны ўчынак, за выратаванне шасці параненых, яго ўзнагародзілі другім ордэнам Чырвонай Зоркі.

У 1944 годзе іх 129-я стралковая дывізія вызваляла Беларусь. Лейтэнант медслужбы Алашэеў прайшоў з баямі ад Гомеля да Ваўкавыска, дзе атрымаў чарговае лёгкае раненне са свайго ж самалёта "Харыкейна". Але ў шпіталь не лёг: лячыўся без адрыву ад службовых абавязкаў. Удзельнічаў у вызваленні Польшчы, у штурме Кёнігсберга і Берліна. Быў сведкам затаплення Берлінскага метро фашыстамі. А калі насельніцтва кінулася з метро да савецкіх салдат ратавацца, іх фашысты сталі касіць з кулямётаў.

— Бачу: упала немка, а яе маленькая дачушка поўзае побач і заве: "Муці, муці"... Наш салдат падпоўз да дзяўчынкі, прыкрыў яе сабой і заспяшаўся ў падвал. Па дарозе ён быў сур'ёзна паранены. Я перавязваю яго... Звычайна раненыя пытаюцца: "Доктар, а я жыць буду?". А ён турбуецца: "Доктар, а дзяўчынка – жывая?". Чым не матэрыял да вядомага помніка савецкаму воіну ў Берліне? – заключае ветэран.

Вайну ён закончыў у г.Бургу на Эльбе. Сустракаўся з саюзнікамі: і амерыканцамі, і англічанамі.

Пасля Перамогі два гады службы у Полацку і Ваўкавыску прышчапілі любоў да Беларусі на ўсё жыццё. Але на два гады разлучыўся з ёй у 1947 годзе: накіравалі служыць у Германію ў горад Веймар. Вярнулі ў СССР: спачатку ў Мінск, потым – у Арэнбург. Затым зноў у 1953 годзе на пяць гадоў ужо з жонкаю паслалі ў Германію. Спачатку ў Берліне ў Цэнтральным ваенным шпіталі лячыў салдат, нарэшце – у Вюнсдорфе, дзе размяшчаўся тады Штаб групы савецкіх акупацыйных войск. Адначасова з 1958 года будаваў сабе дом у Вілейцы, якую абраў для цывільнага жыцця.

30 снежня 1960 года дэмабілізаваўся, маючы за плячыма 27 гадоў ваеннай службы. Але і ў Вілейцы да 1995 года працягваў працаваць: спачатку ў аблскурдыспансеры, а апошнія 18 гадоў – у гарадской бальніцы. Такім чынам, у ветэрана – 62 гады працоўнага стажу! Хапіла б і на трох мужчын...

Падпалкоўніку медслужбы Уладзіміру Алашэеву выпаў лёс, характэрны для старэйшага пакалення. Яго сын Андрэй скончыў Ульянаўскае вышэйшае ваенна-інжынернае вучылішча сувязі, у якім да вайны працаваў яго бацька. Цяпер маёр Андрэй Алашэеў служыць у Беларускім войску ў Валожыне. Служыць новай Радзіме свайго бацькі.

І гэта не выпадковасць, а пераемнасць у сям'і Алашэевых, якія абарону Радзімы абралі сваёй прафесіяй.

Аляксандр НАРКЕВІЧ.

# ВІНШАВАНКІ

З 18-годдзем!
**Кацярына Федарэнка!**
Дарагая наша дачушка і сястрычка! Віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем табе здароўя, шчасця, кахання і поспехаў.



Восемнадцать лет…Пора расцвета,
Первых взлётов и побед.
Пусть, надеждами согрета,
Жизнь течёт, не зная бед.
Чтобы всё, о чём мечталось,
Что манило и влекло,
Словно в сказке, исполнялось,
И во всём тебе везло!

*З любоўю, тата, мама і сястра Даша.*

**Паважаныя сябры!**
Віншуем вас з Днём друку. Прыміце шчырыя пажаданні шчасця, дабра, творчых поспехаў, матэрыяльнага дабрабыту і моцнага здароўя.

*З павагай дырэктар Мінскага абласнога драматычнага тэатра С.Б. Валькoвіч.*

Народ!
9 мая адбудзецца дзень нараджэння ў самай крэатыўнай асобы нашага сонечнага горада...
**Яўген Батура!**



Мы цябе любім!!!
З днём нараджэння!
Дзякуй за тое, што ты ёсць...

*Ад сяброў.*

**Віталя Аляксеевіча Якубеля** (Смаргонь, в. Сінькі) віншуем з днём нараджэння. Здароўя, шчасця, добрых год жыцця і бадзёрасці. *Ніна, Марыя.*

**Веру Анатольеўну Журомскую**, начальніка харчовай лабараторыі ААТ "Маладзечнаграмхарч", віншую з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, дабрабыту. *Дыба Т.І.*

**Г.І. Жылу** віншую з днём нараджэння! Ад усяго сэрца жадаю шчасця. *Дзяніс Жыла.*

**Міхаіл Аляксандравіч Сліжэўскі!** Сардэчна віншую з юбілеем. Няхай заўсёды лёс дорыць табе здароўе, удачу і каханне! *Жонка Ядвіга.*

**Міхаіл Аляксандравіч Сліжэўскі**, дарагі татачка, віншуем з 55-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця і бадзёрасці. Дочкі, зяці і ўнукі.

**Валянціну Паўлаўну Бічун** з в. Ілья віншуем з юбілеем! Будзь заўсёды прыгожай, добрай, шчаслівай і вясёлай. *Унучкі і ўнук.*

**Вольгу Валер'еўну Кабыльчанкуа** з Маладзечна віншуем з 30-годдзем! Желаем счастья и добра, здоровья крепкого всегда, всегда быть ласковой и милой, всегда любить и быть любимой. *Сям'я Ахрем.*

**Яўген Батура**! Віншую цябе з днём нараджэння! Творчасці ва ўсім, мэтанакіраванасці, светлых пачуццяў і сонечнага настрою. *Уладзімір Трацяк.*

**Марыю Леанідаўну Занковіч**, каханую жонку, віншую з тым, што 28.04.2004 г. у 12:20 яна нарадзіла дачушку Надзечку! Дзякуй табе, родная! *Ваш муж і тата Анатоль.*

Маладзечанскі турклуб "Пілігрым" віншуе **Яўгена Стэльмаха** і **Віктара Рупца** з днём нараджэння! Моцнага здароўя, цудоўнага настрою і новых цікавых паходаў.

**Вольгу Шабрамаву**, любую дачушку і сястрычку, з днём нараджэння! Жадаем радасці і поспехаў у вучобе. *Твае родныя.*

**Раісу Кізік і Алену Несцяровіч** віншуем з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя і поспехаў у працы. *Шабрамавы.*

**Людміла Валер'еўна Сівая**, віншуем цябе з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, кахання. *З любоўю, мама, сёстры, Толя.*

# ЗНАЁМСТВЫ

Добрыя, ласкавыя дзяўчаты да 30 гадоў, якія жадаюць стварыць сям'ю з мужчынам 30/180 з жыллём, пішыце. 222410, Вілейка-1, п/п МС 0509393.

Прывабная, нядрэнная жанчына, 50/165/89, пазнаёміцца з мужчынам для сур'ёзных адносін. Падрабязнасці пры перапісцы. Смаргонь, а/с 21.

Жанчына, 50/168/80, пазнаёміцца з нядрэнным мужчынам для сур'ёзных адносін. Т. (8-029) 6812418 (Валожын) Надзея Фёдараўна.

Прыемная жанчына, 42/164/73, жыллём забяспечаная, жадае пазнаёміцца з самастойным мужчынам (39-49 год) для сур'ёзных адносін. 222310, Маладзечна-7, а/с 23.

## ІМЯНІНЫ

**7 мая**
**Праваслаўныя**: Аляксандра, Яўсея, Аляксея, Валянціна, Лявона, Савы, Фамы.
**Каталіцкія**: Людмілы, Бенядзікта.

**8 мая**
**Праваслаўныя**: Марка, Сільвестра.
**Каталіцкія**: Віктара, Станіслава.

**10 мая**
**Праваслаўныя**: Сямёна.
**Каталіцкія**: Антаніны, Антона, Ізідара, Яна.

**11 мая**
**Праваслаўныя**: Віталя, Зіновія, Кіра, Кірыла, Максіма.
**Каталіцкія**: Людаміра, Піліпа, Францішка.

**12 мая**
**Праваслаўныя**: Арцёма, Багдана, Васіля, Івана, Фядота, Філімона.
**Каталіцкія**: Дамініка, Панкрата.

**13 мая**
**Праваслаўныя**: Васіля, Даната, Ігната, Якава, Мікіты.
**Каталіцкія**: Роберта, Сэрваца.

# Купон 19

Рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

тэкст

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

## Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

■ ШАШКІ

# Парадокс у парадоксах

№1. Дзмітрый Стэрнін (Харкаў. 1983 г.)



Гэта пазіцыя ўпершыню ўбачыла свет ў кастрычніцкім нумары ўсесаюзнага часопіса "64-шахматное обозрение" за 1983 год. Яе прапанаваў харкаўскі шашыст Дзмітрый Стэрнін. Сам аўтар так характарызаваў сваю канцоўку: "У гэтай пазіцыі, якая выглядае абсалютна бесперспектыўнай для белых, знаходзіцца выратавальны ўдар, пакуль адзіны ў сваім родзе...". Праз чатыры хады ўзнікае новая пазіцыя – другі парадокс, дзе ў чорных дзве лішнія баявыя адзінкі і да дамак "рукой падаць", але пазбегнуць "любкоў" не ўдаецца. Нічыя.

Гомельскі гросмайстар Леанід Вітошкін у сваёй 5-кніжнай анталогіі "Эцюды ў рускія шашкі" пасля трэцяга ходу белых у гэтай пазіцыі зняў з дошкі па адной простай белых і чорных з палёў g1 і h2 і прадставіў яе як новы эцюд, дзе белыя дасягаюць эфектнай нічыёй. Але тут крыецца новы парадокс – эцюд не рашаецца! Белыя не могуць дасягнуць пастаўленай мэты. Яны прайграюць даволі простым чынам.

## Выйграйце прыз

№2. Генадзь Высоцкі (Смаргонь. 1964 г.)



Белыя пачынаюць і выйграюць.

Сярод тых, хто дакладна разбярэцца ў пазіцыі Дзмітрыя Стэрпіна, а таксама ва ўзнікшай з яе эцюда ў рэдакцыі Вітошкіна і канцоўкі Высоцкага, будзе разыграны прыз – рэдкая кніга Е.А.Каднікава "Шашечныя арабескі". У ёй вельмі простай і дасціпнай мовай адлюстравана гісторыя, мастацтва, ваенная справа і спорт. Гэта кніга па краязнаўстве Крыма і поўдня Украіны, уводзіць у старажытнасць – Скіфію, Херсанэс, Грэцыю... Тут многа расказаў пра настольныя гульні, дзе пераважаюць шахматы і шашкі. Жадаем поспехаў!

## Працягваем змяшчаць міні-партыі

Гульня Пятрова. 1. g3-h4 f6-e5 2. e3-f4 e5:g3 3. h2:f4 g7-f6 4. d2-e3 b6-c5 5. e1-d2 a7-b6 6. c3-d4? Прайграе. Трэба было 6. f4-g5 з роўнай гульнёй. Бліскуча выкарыстаўшы рашэтнасць у пазіцыі белых, чорныя ў фінале здзейснілі так званае кола гонару, або "чортава кола". Вось як гэта выглядае 6... h6-g5! 7. f4:h6 f8-g7 8. h6:f8 f6-e5 9. d4:f6 e7:g5 10. h4:f6 d8-e7 11. f6:d8 d6-e5 12. f8:b4 e5-f6 13. e3:g5 b6-a5 14. d8:b6 a5:a5 і выйгрыш.

## Зверце рашэнні. «РГ», №12 ад 19 сакавіка

№1. 1. c5-d6 e5:c7 (астатняе проста) 2. e3-f4! з выйгрышам.

№2. 1. d4-e5 c3:a1 2. g1-f2 f6:d4 3. c1-b2 a1:c3 4. f2-e3 d4:f2 5. d6-e7 f8:d6 6. h6:g3x

Правільныя адказы прыслалі **Анатоль Гомза** (Вілейка), **Леанід Жыхар** (Крывічы), **Сяргей Матус** (Валожын).

Чакаем вашых новых пісем.

**Анатоль РОГАЧ, кандыдат у майстры спорту.**

# Выключыць лебедзя!

**Лебедзь-шыпун выключаны з Чырвонай кнігі Беларусі, паведаміла нядаўна інфармацыйнае агенцтва «Інтэрфакс» са спасылкай на Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**

На самой справе, патлумачыў у інтэрв'ю "РГ" дырэктар грамадскага аб'яднання «Ахова птушак Беларусі» **Аляксандр Вінчэўскі**, гэта толькі планы. Савет Міністраў яшчэ павінен зацвердзіць новы спіс відаў, занесеных у Чырвоную кнігу. Новая Чырвоная кніга павінна з'явіцца ў пачатку 2005 года. З яе, сказаў Аляксандр Вінчэўскі, будуць выключаныя каля 10 відаў птушак. Сярод іх і лебедзь-шыпун. Гэтым птушкам знікненне не пагражае. Іх колькасць у Беларусі павялічылася ў некалькі дзесяткаў разоў і дасягнула прыкладна 1000 пар. У нашай краіне яны гняздуюцца на ўсіх вадаёмах.

А вось шэрая гусь адразу з паляўнічых відаў пяройдзе ў Чырвоную кнігу. Іх у нашай краіне засталося 50-100 пар.

Аднак, зазначыў Аляксандр Вінчэўскі, пад аховай дзяржавы знаходзяцца ўсе 309 відаў птушак, што сустракаюцца ў Беларусі, акрамя сарокі і шэрай вароны. Нават за забітага вераб'я, які не занесены ў Чырвоную кнігу, чалавек будзе несці адміністрацыйную адказнасць.

**Святлана ЦІШКО.**

# Кінатэатр Радзіма»

**7, 8 мая. Прэм'ера. "50 першых пацалункаў"**, ЗША, камедыйная меладрама. 7 мая – у 17.00 і 21.00; 8 мая – 15.00, 17.00 і 21.00.
**7-9 мая. "Нават не думай"**, Расія, маладзёжная камедыя. Сеансы: 7,8 мая – у 19.00; 9 мая – у 19.00 і 21.00.
**9 мая. "Блаславіце жанчыну"**, Расія, драма – у 15.00 і 17.00.
**10-16 мая. "Нават не думай-2"**, Расія, маладзёжная камедыя – у 17.00, 19.00 і 21.00.
**Прэм'ера. "Пітэр Пэн"**, ЗША, прыгоды – у 15.00.
**Толькі 2 дні – 19 і 20 мая – будзе дэманстравацца фільм, які скалыхнуў увесь свет, — "Страсці Хрыстовы"**. Сеансы: у 10.00, 12.30, 15.00, 17.30 і 20.00. Фільм аб апошніх 12-ці гадзінах зямнога жыцця Сына Божага. Неверагодна моцнае па затоенай энэргетыцы, змрочнае, насычанае фізічным болем, напоўненае пакутамі дзейства разгортваецца на экране. Кожны крок закаванага Выратавальніка суправаджаецца новым і новым болем. Але значна глыбей бачны не фізічны боль, хаця ад яго Сын Божы на экране літаральна раз за разам валіцца на камяні, чым прымушае гледача ўздрыгваць. Білеты прадаюцца папярэдне.
**Для дзяцей**
**7-9 мая. "Кевін у краіне драконаў"**, ЗША. 7 мая — у 15.00, 8, 9 мая – у 13.00.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ ТУРЫЗМ

# Рыхтуемся да паходу

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі турклуб «Пілігрым» запрашае ўсіх ахвотных у велапаход 4 катэгорыі складанасці па Карпатах.**

Маршрут праходзіць па тэрыторыі Беларусі, Польшчы, Славакіі, Украіны, па гарадах Кракаў, Кошыцэ, Ужгарад, Івана-Франкоўск, Львоў. Паход запланаваны на ліпень-жнівень. Працягласць — 2 тыдні. Ахвотным трэба мець пашпарт для выезду за мяжу.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць у турклубе «Пілігрым» па серадах з 16.00 да 20.00 асабіста або па тэлефоне 6-18-21, а таксама ў Сяргея Семенюка па тэлефоне 7-19-95.

**Міхаіл ДУБОВІК.**

■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, паважаныя чытачы!

На мінулае пытанне правільна адказала толькі пяць удзельнікаў. Гэта **Юрый Юхневіч, Максім Захарыч, Уладзімір Тамковіч, Кендыш Л.Н. і Кендыш Надзея**. Усіх я запрашаю па білеты.

Вось як трэба было адказаць на мінулае пытанне:

Беларусь, мая радзіма,
Як жа расцвіла ты
За час гэты за кароткі,
Як выгнала катаў.

Вашай увазе прапаную новае заданне:

У клеткі квадрата неабходна ўставіць лікі ад 2 да 65 так, каб сума іх па гарызанталі, вертыкалі і дыяганалях была роўна 268.



Адказы прымаюцца толькі ў пісьмовай форме, з разборліва напісаным імем і прозвішчам. Не забывайце, што білеты можна атрымаць толькі ў тым месяцы, калі выйшаў нумар. Калі ласка, не забывайце, калі адпраўляеце адказ у канверце, ставіць пазнаку: «Зарабі білеты ў кіно».



**Чытачоў азадачваў Валянцін ЦІШКО.**

